Тэлепраграма з 24 па 30 ліпеня

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

№ 57 (4206)

21 ліпеня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*«Народная Воля»*
в Twitter
www.twitter.com/narodnaya_volya
в Facebook
www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte
www.vk.com/nvonlineinfo


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Беларусь – Украіна: руку на сяброўства!



Пятру Парашэнку і Аляксандру Лукашэнку ёсць што абмяркаваць...

СІТУАЦЫЯ

## Няма рэформаў – няма грошай?

*Міжнародны валютны фонд прыпыніў дыскусію з Беларуссю з-за адсутнасці выразнай падтрымкі рэформаў.*

Як заявіў на брыфінгу ў Вашынгтоне афіцыйны прадстаўнік МВФ Уільям Мюрэй, МВФ прыпыніў дыскусіі з Беларуссю «ў чаканні яснай дэманстрацыі падтрымкі на высокім узроўні неабходных змен».

Гаворка ідзе ў першую чаргу пра тое, што тычыцца дзяржаўных прадпрыемстваў і камунальнага сектара, адзначыў прадстаўнік МВФ.

Нагадаем, што на пачатку года практычна была гатова да падпісання праграма Беларусі з МВФ, якая падтрымлівaецца крэдытам на суму не менш за 3 млрд долараў на дзесяць гадоў пад 2,28% гадавых.

ЧУЛІ?

## «Зайцы», сцеражыцеся!

*З 19 ліпеня сталічныя кантралёры працуюць у трамваях і тралейбусах без спецыяльнай формы.*

У "Мінсктрансе" адмову ад спецвопраткі патлумачылі тым, што кантралёры ў ёй лёгка пазнавальныя, а таму тыя, хто прызвычаіўся ездзіць бясплатна, паспяваюць збегчы з транспарту.

Пакуль кантралёры ў форме застануцца толькі ў аўтобусах, але кажуць, што ў хуткім часе пазбавяцца яе і яны. Зараз на подпісе ў кіраўніка краіны знаходзіцца закон аб унясенні змен у заканадаўстве аб аўтамабільным транспарце. А "Мінсктранс" напярэдадні якраз і хадайнічаў аб адмене спецформы для кантралёраў у аўтобусах.

На прадпрыемстве таксама раяць, каб не патрапіць на махляроў, патрабаваць у тых, хто патрабуе паказаць квіток, прад'явіць пасведчанне. Акрамя таго, яны павінны мець бэйдж і відэарэгістратар, каб фіксаваць магчымыя канфліктныя сітуацыі.

**Віктар ШПАК.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук



## Выходим из комы?

ВВП Беларуси за полугодие увеличился на 1% по сравнению с аналогичным периодом прошлого года, когда валовый внутренний продукт упал на 2,6%. Он падал с высоты 75,8 млрд долларов, достигнутой в 2014 году, до отметки 47,8 млрд в долларовом эквиваленте 2016 года.

Нынче объем ВВП за полугодие в текущих ценах составил 47,3 млрд рублей, или примерно 24,1 млрд долларов по курсу. Значит, у правительства появились перспективы подвести ВВП в текущем году к рубежу 50 млрд в долларовом эквиваленте и считать, что белорусская экономика выходит из коматозного состояния, в котором она находилась более двух лет.

Особенно порадовал экспорт. За январь–май он подпрыгнул на 20,6% в годовом измерении – до 13,6 млрд долларов. Об этом успехе не преминули в радужных тонах заявить глава МИД Владимир Макей и глава государства Александр Лукашенко. Правда, стоит напомнить и глубину предшествующего падения белорусского экспорта: в 2013 году он снизился на 15,1%, в 2014 году – на 1,7%, в 2015 – на 24,2% и в 2016 году еще на 9,3%. В целом за этот период он снизился с 46,1 млрд долларов до 29,8 миллиарда долларов. Задача, поставленная перед экспортерами, обеспечить по трети экспорта на рынки ЕАЭС, ЕС и стран дальней дуги остается невыполненной. Фактические пропорции составили соответственно 47,4%, 26,6% и 26%.

По-прежнему основу экспорта в ЕС составляют нефть, нефтепродукты, калийные и азотные удобрения, древесина. Российский ВВП показывает рост 1,5%, и Россия стала больше покупать наших тракторов, грузовиков, комбайнов, продуктов сельского хозяйства. Однако международные эксперты пророчат такой же умеренный темп роста российской экономике на ближайшие три года. Кстати, мировая экономика прирастает примерно на 3,5% ежегодно. Мир убегает от Союзного государства России и Беларуси. Если раньше по ВВП на душу населения белорусы были на 72-м месте в мире, то сейчас на 96-м.

С инфляцией у нас тоже все позитивно. В июне цены выросли только на 0,7%. Правда, в летние месяцы инфляция, как правило, всегда минимальна. Сказывается сезонный фактор – созревает урожай, народ уезжает в отпуска и снижается внутренний спрос на продукцию. Настораживает другое. Банковская статистика показывает, что во втором квартале по сравнению с первым объем наличных денег увеличился сразу на 17,5%. В целом только за июнь рублевая денежная масса приросла на 9%, тогда как за весь первый квартал она увеличилась всего на 1,2%. Сохранение таких темпов явно начнет давить на курс белорусского рубля.

Пока обменные курсы белорусского рубля изменяются достаточно плавно. Точнее после долгого стабильного курсового периода рубль плавно стал девальвироваться к доллару и евро. Ситуация была бы хуже, если б население не продолжало поддерживать белорусский рубль вливаниями своих сбережений на валютный рынок страны. За шесть месяцев физическими лицами продано валюты больше, чем куплено, на 1,13 млрд долларов. Чистая продажа наличной валюты была еще больше – на 1,34 миллиарда. Это существенно больше, чем за такой же период прошлого года. Чистая продажа валюты населением длится уже 17 месяцев подряд, с февраля 2016 года. За этот период остатки валюты на срочных банковских депозитах без учета капитализации сократились на 1,2 млрд долларов. Насколько усохли домашние сбережения, можно только догадываться. Белорусам ничего не остается, как продолжать поддерживать падающие реальные доходы на привычном уровне за счет прежних накоплений.

Вообще, рост ВВП должен материализоваться в конкретное увеличение реальных располагаемых доходов населения. А на это уходит полгода-год при условии устойчивого роста инвестиций в основной капитал, которые сократились за прошлый год на 22% и на 5–6% в текущем году. Предыдущие падения белорусской экономики, как видим, настолько серьезные, что с такими темпами ее восстановления не пройдет, как говорится, и десяти лет, как мы вновь будем получать по 600 долларов средней зарплаты, покупать и копить валюту и радоваться жизни. А пока как не порадоваться грандиозным планам правительства по возможностям и желаниям поставок МАЗов в саму Германию, организации сборочных производств грузовиков и автобусов МАЗ во Вьетнаме, создания кластера МТЗ в Татарстане, производства отечественной сельхозтехники в Таджикистане и Турции, превращения Беларуси в мирового IT-лидера и т.д. и т.п.?

Не пройдет и десяти лет, как белорусская экономика из стадии ремиссии перейдет в стадию восстановительного роста, и мы забудем, что искали работу за 200–300 рублей, работали за еду, рассчитаемся с долгами и будем вновь стабильно процветать.

БЛІЦ

*Усяго некалькі месяцаў застаецца да правядзення выбараў у мясцовыя Саветы. Існуе шмат нявырашаных пытанняў, але, падобна, ні ўладу, ні тых, хто называе сябе апазіцыянерамі, яны не хвалююць – поўнае заціша. Сёння "Народная Воля" вырашыла задаць прадстаўнікам шэрагу дэмакратычных структур адно пытанне:*

## Калі ў пярвічныя выбарчыя камісіі не ўключаць вашых прадстаўнікоў, ці будзеце вы ўдзельнічаць у гэтай палітычнай кампаніі?

**Леў МАРГОЛІН,**
**намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі:**

– На сённяшні дзень партыя прыняла такое рашэнне: удзельнічаць у кампаніі будзем незалежна ад таго, зменяцца ўмовы правядзення выбараў альбо не зменяцца. Справа ў тым, што падчас такіх кампаній мы заўсёды заахвочваем да ўдзелу нашых маладых партыйных сяброў. Што называецца, "абкатваем" іх на мясцовых праблемах. Праўда, калі гэтыя выбары вырашаць сумясціць з рэферэндумам, то мы будзем прымаць асобнае рашэнне.

**Віталь РЫМАШЭЎСКІ,**
**сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя»:**

– У кожнай такой кампаніі палітычныя сілы павінны ўдзельнічаць, і мы тут не выключэнне. Іншае пытанне, што фармат удзелу можа быць розны. Усё залежыць ад палітычнай сітуацыі і магчымасцяў. Напрыклад, зараз, калі не будзе міжнародных назіральнікаў АБСЕ, мы будзем рабіць акцэнт на дзвюх рэчах. Першае – арганізацыя кампаніі назірання за выбарамі, якая стартуе ўжо ў верасні. Другое – патрабаванне разам з іншымі дэмакратычнымі прадстаўнікамі змены Выбарчага заканадаўства ў Беларусі. Таму, паўтаруся, мы будзем актыўна ўдзельнічаць у гэтай палітычнай кампаніі дзеля таго, каб мець магчымасць камунікаваць з людзьмі і сабраць доказы фальсіфікацый выбараў. Наша задача – напоўніцу выкарыстаць гэтую кампанію і прымусіць улады пайсці на саступкі – змяніць Выбарчы закон. Калі гэтага не адбудзецца, мы будзем заяўляць, што ў Беларусі па-ранейшаму няма свабодных і справядлівых выбараў, а мясцовыя Саветы – гэта толькі частка выканаўчай улады.

**Сяргей КАЛЯКІН,**
**лідар Беларускай партыі левых «Справядлівы свет»:**

– Мы ўдзельнічалі ва ўсіх палітычных кампаніях, таму возьмем удзел і гэтым разам. І для гэтага ёсць некалькі прычын. Калі ёсць справядлівыя выбары, ты змагаешся за мандаты, калі такіх няма – вырашаеш палітычныя задачы. Таму ў нас ёсць некалькі сцэнарыяў, паводле якіх і будзем працаваць.

**Яўген АФНАГЕЛЬ,**
**каардынатар грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь»:**

– Не будзем. Выбараў у Беларусі няма, таму само пытанне «Ці будзеце вы ўдзельнічаць у выбарах?» некарэктнае. Таму незразумела, чаму некаторыя людзі, якія называюць сябе дэмакратамі і апазіцыянерамі, ізноў збіраюцца браць удзел у гэтым фарсе.

**Галіна СКАРАХОД,**
**1-ы намеснік старшыні руху «За Свабоду»:**

– Нашы прадстаўнікі звычайна бяруць удзел у такога кшталту кампаніях, таму што з'яўляюцца дадатковыя магчымасці для працы з насельніцтвам.

**Ірына ВЕШТАРД,**
**старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада):**

– Здаецца, мы заўсёды бралі ўдзел у выбарах, нягледзячы на тое, што ў камісіях нашых прадстаўнікоў не было. Але ж акрамя камісій падчас выбарчай кампаніі хапае і іншых працэдур – папярэдняе галасаванне, падлік галасоў… Увогуле, не лічу правільным складаць лапкі і нічога не рабіць толькі на падставе таго, што вашых прадстаўнікоў не ўключылі ў камісію. Але гэтае пытанне мы яшчэ будзем абмяркоўваць. І калі сярод партыйцаў будуць прапановы не ўдзельнічаць у кампаніі, то я падпарадкуюся большасці. Хаця, як мне падаецца, усё-такі возьмем удзел.

**Аляксей ЯНУКЕВІЧ,**
**кіраўнік Партыі БНФ:**

– У гэтай палітычнай кампаніі мы будзем браць удзел у любым выпадку. Разумеем, што ўключэнне нашых прадстаўнікоў у склад выбарчых камісій – гэта справа нерэальная. І нават калі некалькі дэмакратычных прадстаўнікоў у такія камісіі патрапяць, то практыка паказвае, што гэта не ўплывае на вынік. Насамрэч трэба змяняць выбарчую сістэму комплексна, калі мы хочам казаць пра справядлівыя выбары. Можна сказаць дакладна, што істотных змен у Выбарчым законе да выбараў у мясцовыя Саветы не адбудзецца, але тыя нашы людзі, якія ў сваіх акругах вядуць шматлікія грамадзянскія кампаніі, яны, безумоўна, будуць кандыдатамі. Проста дзеля таго, каб атрымліваць дадатковую падтрымку людзей і патрабаваць ад улад пазітыўных змен.

**Андрэй ДЗМІТРЫЕЎ,**
**адзін з лідараў кампаніі «Гавары праўду!»:**

– Будзем удзельнічаць у кампаніі і пры гэтым дамагацца, каб нашы людзі былі ўключаны ў выбарчыя камісіі. Галоўная мэта для нас – атрымаць сваіх дэпутатаў на мясцовым узроўні. Мы ўпэўнены, што сёння гэта – адзіны шлях, каб крок за крокам рабіць у краіне перамены і каб яны адбываліся мірным шляхам. Міністр замежных спраў Уладзімір Макей днямі сказаў на З'ездзе беларусаў свету, што нам ад рэвалюцый трэба пераходзіць да нацыянальнай згоды. Гэтая згода і дасягаецца тады, калі грамадства атрымлівае права на абарону сваіх інтарэсаў ва ўладзе. Таму апазіцыя і павінна ўдзельнічаць у выбарах у мясцовыя Саветы.

**Анастасія ДАРАФЕЕВА,**
**старшыня Беларускай партыі «Зялёныя»:**

– Мы пакуль не вызначыліся з удзелам у выбарах. Прымем рашэнне да канца лета.

**Юрась БЕЛЕНЬКІ,**
**намеснік старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ:**

– Удзельнічаць у падмане і заклікаць людзей да падману – гэта амаральна з любога пункту гледжання. Калі мы ўдзельнічаем у такой кампаніі, то атрымліваецца, што дасылаем людзям пасланне: справядлівыя выбары быццам бы ёсць. Але ж усе мы ведаем, як яны праводзяцца. Некаторыя кажуць, што, маўляў, кампанію трэба выкарыстаць для працы з насельніцтвам. А хто вам учора гэта забараняў рабіць? Сёння ж ідзіце да людзей і гаварыце з імі, распаўсюджвайце інфармацыю, працуйце. А ўсё астатняе – падтанцоўка ўладзе. Некаторыя палітыкі могуць прыкрывацца сваёй апазіцыйнасцю, але, калі яны ўдзельнічаюць у тым, чаго фактычна не існуе, значыць, працуюць на рэжым. Так і напішыце…

**Апытваў Алесь СІВЫ.**

КРЫМІНАЛ

## Генадзь Гаспадарык і Мікалай Цырто – на лаве падсудных

Помніце жарт: калі і красці, то мільёны.

Першы намеснік старшыні праўлення "Беларусбанка" Генадзь Гаспадарык як быццам не залез у дзяржаўны сейф, але выкрыты ў буйнамаштабным хабарніцтве. У чэрвені мінулага года яго злавілі на гарачым, калі ён атрымліваў з чужых рук 14 тысяч долараў. Як аказалася, падобнае здаралася і раней. І не адзін раз. Следчыя прадставілі на разгляд суда факты, калі сумы хабару дасягалі 70 і нават 90 тысяч долараў. Сам Г.Гаспадарык засведчыў у першы дзень суда, што агулам ён атрымаў ад тых, хто даваў яму хабар, больш за 200 тысяч долараў.

На лаве падсудных з аналагічным абвінавачаннем знаходзіцца і Мікалай Цырто – намеснік дырэктара дэпартамента па працы з каштоўнасцямі "Беларусбанка".

Цікава, які прыгавор вынесе ім суд Цэнтральнага раёна г.Мінска?

**Лідзія КАРПОВІЧ.**



ВЕРНІСАЖ

# Раскоша тонкіх адчуванняў

Два польскія музеі – Падляскі ў Беластоку і Акруговы ў Сувалках – прывезлі ў Мінск выставу малюнка, якая адкрываецца сёння ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Гэта партрэты, пейзажы, жанравыя замалёўкі, гістарычныя сцэны, нават фантасмагорыі. Выстава «Майстры польскага малюнка» арганізавана ў цесным супрацоўніцтве з Польскім інстытутам у Мінску: ён ужо шмат гадоў партнёр нашага Мастацкага музея.

Спачатку, вядома, можна згубіцца ў незнаёмых прозвішчах: на выставе прадстаўлена больш за 300 графічных твораў польскіх мастакоў XIX–XX стагоддзяў. Але як толькі вы ўбачыце «Прадстаўленне Барбары Радзівіл польскай шляхце» – гэтую жанравую замалёўку тонкіх чалавечых эмоцый і дрэнна схаваных нізкіх пачуццяў знакамітага Яна Матэйкі, – польскае мастацтва загаворыць з вамі, як даўні знаёмец. Лічыце, што вы здабылі гістарычны навігатар.

Затым рэкамендую спыніцца ля «Пейзажа» Максімільяна Герымскага. Вас апануе меланхолія, але і дзіўнае зачараванне – у XIX стагоддзі гэтыя пачуцці шанаваліся вельмі высока. Мастак меў вялікі поспех на выставах у Мюнхене і Вене, карціну Герымскага купіў сам аўстрыйскі імператар Франц Іосіф I. Але заслужанай славай Герымскі нацешыцца не паспеў. «Адчуваю, што імкліва старэю. Мне 26, а мыслю я так, быццам мне 50», – пісаў ён за год да сваёй смерці. Мастака згубілі сухоты. І чаму самабытны талент, як правіла, такі кволы?

А вось пра аднаго з самых яркіх прадстаўнікоў мастацтва Другой Рэчы Паспалітай Станіслава Ігнацыя Віткевіча («Віткацыя») у Польшчы, напэўна, чуў кожны. Творчасць гэтага чалавека аказвае гіпнатычнае дзеянне. Ён быў паважаным мастаком, драматургам, фатографам, філосафам і падарожнікам. Вельмі каларытная асоба з вельмі эксцэнтрычнымі паводзінамі і перакананнямі. Віткевіч – постаць першага пакалення польскага авангарду. Тым не менш у даваеннай Польшчы XX стагоддзя нават існавала «мода на Віткацыя». Лёс мастака таксама трагічны: разам з нявестай ён скончыў жыццё самагубствам падчас Другой сусветнай вайны.

Але большая частка выставы – гэта "мастацтва ўсмешкі": карыкатуры, якія атрымалі асаблівае прызнанне ў XIX стагоддзі. Вострыя, дабрадушныя, гумарныя, гратэскныя... Да 20 верасня, пакуль будзе працаваць польская выстава, ёсць час наведацца да іх не раз.

**Вікторыя ДРОЗД.**

БЫВАЕТ И ТАКОЕ

# В Несвижской больнице – новый хирург

*Министр здравоохранения Беларуси Валерий Малашко в ходе личного приема граждан помог с трудоустройством выпускнику Гомельского мединститута.*

Как сообщила пресс-служба правительства, на прием к министру пришел молодой человек, который в этом году окончил Гомельский государственный медицинский университет с не очень высоким средним баллом. В субординатуре он обучался по специальности «терапия», однако хотел стать хирургом. Валерий Малашко пояснил, что распределиться в должности врача-хирурга могут те, кто окончил субординатуру по соответствующей специальности и с достаточно высоким баллом. Специальность хирурга требует оперативности, большого объема знаний, в том числе по смежным специальностям. Поскольку у парня большое стремление работать хирургом, ранее он занимался в специализированном кружке и подрабатывал, на распределении ему было предложено место врача-хирурга в Несвижской центральной районной больнице. Он тогда не согласился и взял свободный диплом, поскольку обучался платно. Руководитель Минздрава предложил молодому человеку тот же вариант распределения, и на этот раз предложение было принято.

**Алина ВЕТРОВА.**

З ЗАЛЫ СУДА

# Як п’яны кураж
## прывёў начальніка міліцыі на лаву падсудных

*У судзе Чыгуначнага раёна Гомеля разглядаецца рэзанансная справа па абвінавачанні былога начальніка Веткаўскага РАУС падпалкоўніка міліцыі Уладзіслава Антоненкі ў хуліганстве – паводле часткі 1 артыкула 339 Крымінальнага кодэкса. У першы дзень былі дапытаны абвінавачаны, пацярпелы падлетак Вадзім, якому не споўнілася яшчэ і 16 гадоў, ягоная маці Людміла, удзельнік інцыдэнту Уладзімір Сідараў і сведкі з боку міліцыі.*

### Абвінавачанне

Абвінавачанне былому галоўнаму міліцыянту Веткі, якое зачытаў намеснік пракурора горада Гомеля Аляксей Гаўрыкаў, надзвычай лаканічнае: "25 красавіка ўвечары каля 22 гадзін Антоненка, будучы ў стане алкагольнага ап’янення, рухаючыся па ходніках з боку фасада крамы "Еўраопт" на вуліцы Заслонава, параўняўшыся з раней незнаёмым непаўналетнім Вадзімам Ш., наўмысна, беспрычынна, з хуліганскіх памкненняў, груба парушаючы грамадскі парадак, выказваючы яўную непавагу да грамадства, агульнапрынятых правілаў паводзін, дэманструючы фізічную перавагу, праяўляючы самахвальства і п’яны кураж, выкарыстоўваючы надуманую нагоду, нанёс падлетку не менш за адзін удар у жывот і ў левую руку, якой той прыкрываў жывот, і не менш за адзін удар у галаву".

На гэтым, як высветлілі супрацоўнікі УСК па Гомельскай вобласці, хуліганскія дзеянні начальніка міліцыі не скончыліся. Каля будынка раённых электрасетак, калі ўжо прыехаў нарад міліцыі разбірацца з вулічным хуліганствам, Антоненка дабавіў падлетку – стукнуў кулаком пад левае вока, ды так, што ў хлопца пацямнела ўвачу і ён секунд на 6–7 страціў зрок. Прынамсі так ён апавядаў у судзе.

Пратакольны стыль абвінаваўчага заключэння, безумоўна, не ўвабраў у сябе ўсіх дэталяў інцыдэнту. Іх досыць прафесійна выцягваў на свет божы, дапытваючы былога начальніка міліцыі і сведак, дзяржаўны абвінаваўца ў асобе намесніка гарадскога пракурора.

### «Гарэлка і піва наверх»

У дзень інцыдэнту ва Уладзіслава Антоненкі быў выхадны, але ён, як тлумачыў, прыязджаў у райаддзел міліцыі, спраўляўся пра ахову грамадскага парадку. Недзе пасля 18 гадзін сустрэў знаёмага, купілі бутэльку гарэлкі і піва.

"Разумееце, цэлы дзень не еў, а тут гарэлка і піва наверх. Гарэлку, здаецца, не дапілі, але ж піва… Ап’янеў. Потым павёў свайго сабаку, баксёра, на прагулку ў бок колавай развязкі і лесу. Мяне павінен быў забраць таварыш на машыне, каб ехаць дадому. Сустрэў супрацоўніцу райаддзела міліцыі Галіну Кавалёву. Яна папрасіла павадзіць сабаку. Мы размаўлялі. Потым атрымалася так, што я пайшоў наперадзе, а Кавалёва з сабакам крыху адсталі. Чую, што за спінай нейкі канфлікт у супрацоўніцы са знаёмым мне грамадзянінам Уладзімірам Сідаравым. Раней, калі я працаваў інспектарам па справах непаўналетніх, Уладзімір стаяў на ўліку. Сідараў быў з дзяўчынай і зрабіў заўвагу Кавалёвай, што сабака без намордніка. Я аклікнуў Сідарава, папрасіў падысці да мяне і разабрацца па-мужчынску. Але той не падышоў».

Паводле версіі Антоненкі, сам ён развярнуўся і рушыў сваёй дарогай. Блізу аўтастанцыі адчуў штуршок ў спіну. Упаў. Падумаў, што штурхнуў Сідараў.

«Куды падзеўся той, хто вас штурхнуў?» – пацікавіўся намеснік пракурора Гаўрыкаў.

«Я не бачыў, бо ўпаў ніцма тварам», – быў адказ.

### «Каго біў, не бачыў»

Кавалёва дапамагла свайму начальніку падняцца. Антоненка перайшоў вуліцу – на той бок, дзе стаіць крама «Еўраопт».

«Там я сам спатыкнуўся і ўпаў. Моцна стукнуўся патыліцай. Чаму ўпаў на патыліцу? Відаць, гэта звязана з маім алкагольным ап’яненнем, ці, можа, нагінаўся, за сабаку зачапіўся. Калі падымаўся, мне падалося, што Сідараў клікаў: "Ідзі сюды, зараз з табою разбяромся!" Я пайшоў і нанёс два ўдары. Каго біў, не бачыў. Потым зразумеў, што гэта не Сідараў. Гэта быў Вадзім – ён таксама быў з дзяўчынай. Падзеі памятаю фрагментарна".

### «Ты чаго малых б’еш?»

Пацярпелы веткавец Вадзім у той красавіцкі вечар гуляў па горадзе са сваёй дзяўчынай Алінай. Забег дадому, узяў крыху грошай і накіраваўся з дзяўчынай у "Еўраопт", каб купіць які пачастунак.

"Калі падыходзілі да "Еўраопту", то ўбачылі, што крама ўжо зачынена. Збіраліся вяртацца дадому. Насустрач нам ішоў з дзяўчынай Валодзя Сідараў – раней я яго не ведаў, а потым Антоненка з жанчынай і сабакам. Мы з Алінай расступіліся, каб даць ім праход. Антоненка рынуўся на мяне са словамі: "Ты што супраць маеш?" І стукнуў мне ў жывот. Я быў у стрэсе, іншых удараў неяк не пачуў. Я адскочыў. У гэты час Сідараў абярнуўся і з абурэннем сказаў Антоненку: "Ты чаго малых б’еш?" Антоненка падаўся на Сідарава, стаў замахвацца, але Сідараў апярэдзіў яго – стукнуў Антоненку першы. Антоненка ўпаў. Жанчына, якая была з Антоненкам, накінулася на Сідарава, стала крычаць. Непадалёку стаяла машына ДПС з міліцыянтамі, і Сідараў накіраваўся да іх, каб сказаць пра хуліганства".

### Здача за падлетка

У хуткім часе на падмогу міліцыянтам ДПС пад’ехалі ахоўнікі, а затым яшчэ дзве міліцэйскія машыны. Падчас разборак Антоненка яшчэ раз ударыў Вадзіма. За яго зноў заступіўся Уладзімір Сідараў, даўшы Антоненку здачы за падлетка.

На месца інцыдэнту прыехаў на цывільнай машыне адзін з намеснікаў начальніка міліцыі, каб забраць Антоненку з сабакам і Кавалёву.

"Кавалёва, – расказваў пацярпелы Вадзім, – паводзіла сябе неадэкватна, крычала – яе трымалі трое ці нават чацвёра міліцыянтаў. І сам Антоненка вылазіў з машыны і нецэнзурна лаяўся – клікаў да сябе сабаку, які бегаў вакол. Кавалёва несла куртку і красоўкі Антоненкі, а сам ён ішоў без абутку".

### «Нават падумаць не магла на начальніка міліцыі»

Хлопцаў завезлі ў міліцыю, дзе яны чакалі гадзіны дзве, пакуль у іх узялі тлумачэнні з нагоды інцыдэнту. У райаддзел прыйшлі маці Вадзіма і Уладзіміра. Назаўтра Вадзім звярнуўся па медыцынскую дапамогу, бо балела рука і пад вокам было чырвонае пятно ад удару. Маці напісала заяву, каб да адказнасці за збіццё яе сына прыцягнулі супрацоўніка міліцыі.

"Але я нават і падумаць не магла, што гэта ўчыніў сам начальнік міліцыі", – даводзіла суду маці Вадзіма як законная прадстаўніца малалетняга.

### Блытаныя тлумачэнні

Надзвычай блытана і супярэчліва давала тлумачэнні ў судзе Галіна Кавалёва, інспектар крымінальна-выканаўчай інспекцыі Веткаўскага РАУС. Выглядала, што яна толькі і бачыла, як Сідараў адыходзіў, вяртаўся і тры разы стукнуў начальніка міліцыі.

Дзяржаўны абвінаваўца цікавіўся: "Гэта ж надзвычайнае здарэнне – у цэнтры Веткі б’юць начальніка міліцыі. Вы як адрэагавалі на гэта?"

"Я тэлефанавала ў дзяжурную часць".

"Вы дапамаглі аказаць начальніку кваліфікаваную медыцынскую дапамогу?"

"Я сама аказвала яму дапамогу".

"Вы хіба спецыяліст у медыцыне? Я кажу пра кваліфікаваную медыцынскую дапамогу", – заўважыў намеснік пракурора.

"Яны проста п’яныя былі. Я не вялікі спецыяліст, але п’янага ад цвярозага адрозніваю", – тлумачыў у сваю чаргу Уладзімір Сідараў.

"Я не піла, – заявіла на пытанне дзяржаўнага абвінаваўцы Галіна Кавалёва. – Асведчванне не праходзіла".

На блытаныя паказанні намеснік пракурора Гаўрыкаў прапанаваў суду звярнуцца да першапачатковых тлумачэнняў Галіны Кавалёвай, аўтаінспектара Юрыя Гірыкава ды самога Уладзіслава Антоненкі наконт інцыдэнту блізу "Еўраопту".

У тлумачэннях, якія даў Антоненка следчаму з Веткі 26 красавіка, на наступны дзень пасля здарэння, выглядала, што напярэдадні ён ішоў паўз крамы "Еўраопт", за ім Кавалёва з сабакам. Каля крамы хлопец, які быў з дзяўчынай, "нецэнзурна лаяўся" – высвятлялі адносіны. Антоненка нібыта зрабіў яму заўвагу, але той не адрэагаваў, працягваў лаяцца. Начальнік міліцыі падышоў бліжэй, папрасіў супакоіцца, не лаяцца. У гэты час падбег Сідараў і стукнуў начальніка міліцыі ў твар – той і ўпаў. Кавалёва адцягнула Сідарава і патэлефанавала ў міліцыю. Антоненка пасля гэтага пайшоў дахаты, а назаўтра даведаўся, што на яго напісалі заяву, хоць ён нібыта нікога не біў.

Падобныя паказанні дала і Галіна Кавалёва, дадаўшы, што Сідараў стукнуў яе локцем у лоб. З гэтай прычыны Кавалёва нават звярталася ў медыцынскую ўстанову, бо кружылася галава.

"Вы дамаўляліся з начальнікам даваць першапачатковыя аднолькавыя, можна сказаць, сінхронныя паказанні?" – запытаўся дзяржаўны абвінаваўца.

"Не, мы не дамаўляліся".

"А чаму яны падобныя? Патлумачце суду".

Патлумачыць Кавалёва толкам нічога не змагла.

### «Хацеў пазбегнуць адказнасці»

Сам Уладзіслаў Антоненка на свае і каляжанкі супярэчнасці заявіў, што першапачатковыя паказанні непраўдзівыя – даваліся яны "з мэтай пазбегнуць адказнасці".

"Я, калі выпісаўся са шпіталю, паехаў і прынёс прабачэнні ва ўпраўленні ўнутраных спраў, у гарадскім СК, выбачыўся перад маці пацярпелага. Я разлічваў, што крымінальная справа будзе спынена праз замірэнне бакоў. Думаў, што застануся ў міліцыі на працы. У мяне двое дзяцей, сям’ю трэба неяк карміць. Хачу яшчэ раз выбачыцца перад непаўналетнім Вадзімам, бо ён патрапіў у жахлівую сітуацыю. Гэта не павінна было адбыцца, але адбылося пад уздзеяннем спажытага мною алкаголю".

### «Цалкам вінаваты»

На каянне ў судзе былога начальніка міліцыі дзяржаўны абвінаваўца заўважыў, што і Галіна Кавалёва, дзейсны супрацоўнік веткаўскай міліцыі, дае супярэчлівыя паказанні ды яшчэ іх мяняе:

"У судзе Кавалёва, па сутнасці, абвінаваціла сведку Сідарава ў дзёрзкім, цынічным хуліганстве. Стукнуў начальніка міліцыі, адышоў, вярнуўся – зноў стукнуў".

Антоненка стаў прасіць суд і пракурора паблажліва паставіцца да сведчанняў дзейсных супрацоўнікаў міліцыі, у тым ліку і Кавалёвай, бо ім, маўляў, "трэба жыць і зарабак атрымліваць". І чулася ў гэтым нейкая наканаванасць: скажуць не так – звольняць са службы.

"Я цалкам вінаваты і гатовы панесці любое пакаранне", – змірыўся былы начальнік міліцыі, а цяпер адміністратар адной з фірм абласнога цэнтра, звязанай з будаўнічымі матэрыяламі.

Абвінавачаны Антоненка прасіў нават не адкладваць, а вынесці прыгавор ужо на першым пасяджэнні суда, каб, маўляў, не адрываць ад службы дзейсных супрацоўнікаў міліцыі.

Суддзя Мікалай Крупадзёраў, які разглядае справу, патлумачыў беламу начальніку міліцыі, што без допыту ўсіх заяўленых сведак і аналізу дакументаў суд прыгавор не вынесіць.

Чарговае пасяджэнне суда Чыгуначнага раёна Гомеля па справе аб хуліганстве падпалкоўніка міліцыі Антоненкі прызначана на 1 жніўня.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**
*Гомель.*

КУЛУАРЫ



# Гости вместо благодарности чуть не изнасиловали хозяйку

***Людмила НАРУСОВА,** сенатор, была членом делегации Российской Федерации на 26-й летней сессии Парламентской ассамблеи Совета Европы, которая недавно прошла в Минске. Обозреватель «Народной Воли» Е.Молочко пообщалась с ней в кулуарах. Разговор, понятно, начался с такого острого вопроса, как отношение властей к инакомыслящим.*

– Я последовательно выступаю за то, что преследование инакомыслящих – и в своей стране, и, скажем, в Беларуси – незаконно, это противоречит всем международным нормам и национальным законодательствам. Нельзя разгонять мирные митинги. Когда человек стоит с мирным пикетом, не нанося имущественного ущерба, а его арестовывают, – такое бывает и в России и в Беларуси, – это недопустимо!

Тем не менее, оставляя в стороне все политические аргументы, хочу сказать одно: ситуация, которая чуть не произошла на минской сессии ОБСЕ с принятием критической резолюции в адрес вашей страны, напоминает мне следующее. Гостеприимная хозяйка открывает двери, приглашает гостей, показывает свой дом – можно осмотреть буквально все. Ну а гости вместо благодарности за хлебосольство изнасиловали хозяйку и ушли. Вот какая у меня возникает ассоциация.

**– По-женски…**

– По-человечески. Есть этические нормы организации ОБСЕ, которая все время говорит о гуманистичности, об этике. И если бы такая резолюция была принята, ОБСЕ продемонстрировало бы полное пренебрежение этическими нормами поведения человека.

**– Как вы думаете, на сколько лет растянется противостояние Европы и России?**

– Думаю, надолго. У меня нет иллюзий о том, что это скоро закончится.

**– Вы в семье много говорите о политике?**

– У меня очень политизированная семья.

**– И появление сына Платона у Ксении Собчак и ее мужа Максима Виторгана не повлияло на то, чтобы сбавить обороты?**

– Нет. Совсем нет…

**– Вы видели депутата из Канады с двухмесячным ребенком на руках? Вы свою дочь с внуком благословили бы на политическое мероприятие?**

– Я считаю: чем больше времени ребенок проводит с мамой, тем лучше. Лучше быть с мамой на работе, чем с няней дома.

**– Можно я задам еще несколько личных вопросов? Вы смотрите фильмы, в которых участвует ваш зять, актер Максим Виторган?**

– Не все, но попадаются…

**– Всегда невольно сравниваешь его с отцом, Эммануилом Виторганом, правда?**

– Нет. Я не люблю, когда сравнивают мою дочку со мной или ее отцом. Не люблю вообще сравнивать, я исхожу из того, что каждый человек индивидуален. Несмотря на то, что он унаследовал генетику своих родителей, он совершенно иное творение природы.

**– Но Максим занимается той же профессией.**

– И это некорректно. Разные жанры, школы, а главное – эпохи, время.

**– В вас, наверное, всегда говорит политик-дипломат. Вас, в принципе, можно вывести из себя?**

– Уже нет. С возрастом приходит умение слышать другого, даже если его мнение мне лично не нравится. Теперь мне даже любопытно. У меня уже выработался иммунитет. Нет ни обид, ни эмоций.

**– Вы в Минске ведь не первый раз. Вам тоже бросается в глаза наша провинциальность?**

– Вы знаете, это не провинциальность, а уют, необходимый для полноценной жизни. Мне как раз импонирует отсутствие пробок и столпотворения на улицах, у вас люди ходят, не задевая друг друга, что на Невском проспекте невозможно. Мне очень нравится атмосфера, обстановка – она в Минске для жизни.

**– Жизнь у нас течет более-менее спокойно, это правда. И общественно-политическая тоже. Видимо, это в характере нации?**

– Это же свойство и российских граждан – настороженность к реформам. Так часто в нашей истории правители обманывали свой народ, суля им привилегии и не выполняя обещаний, что люди имеют право настороженно относиться к обещаниям красивой жизни после реформ. Но власть злоупотребляет стремлением большинства к спокойствию, старается во всем создать глянцевую картинку – у нас, мол, сплошной одобрям-с. А вот это неправильно. Всегда должна быть оппозиция, всегда должна быть возможность высказывать свое мнение.

**– Но у нас порой и митинги оппозиции весьма немногочисленны.**

– Думаю, имеет значение страх. Люди боятся. Если карательные законы такие, что оппозицию могут упечь в тюрьму за экстремизм, то почему тогда мы не осуждаем Октябрьскую революцию? Это был в чистом виде экстремизм: группа людей захватила власть, произвела государственный переворот, уничтожила частную собственность. Мы же не осуждаем это.

**– Был период, когда об этом было сказано четко и определенно.**

– Был и благополучно забыт. Понимаете, такое избирательное отношение к истории – это ложь. А любая, хоть маленькая, ложь вызывает большое недоверие.

**– С дочкой у вас, похоже, полное единомыслие?**

– Да. Как мать я за нее тревожусь, понимая, чем чревата жизнь в оппозиции. Но, с другой стороны, если мы с отцом учили ее не врать, то как я теперь ей скажу, чтобы она не говорила, что думает? Я хотела бы ей сказать: «Остерегись!» Но это говорит во мне мой опыт. А он достигается самостоятельно. Страшно за нее, но…

**– А вы можете покритиковать дочку? Я вот уже иной раз опасаюсь.**

– А вы не давите. Выскажите свою точку зрения и все. Если нет точек соприкосновения, пусть каждый остается при своем. Поменять что-то уже нельзя. Наоборот, человек достоин уважения, если у него есть стройная система убеждений. Пусть они мне даже не нравятся.

**– Где будете проводить отпуск?**

– Знаю, что буду с дочкой и внуком, а где – вопрос. Я обожаю море. Хотя я лесной человек, детство провела здесь, по соседству, в Брянских лесах. Но большую часть жизни живу на море, правда, на северном, на Балтийском. Но отдых без плавания в соленой воде для меня неполноценный.

**Елена МОЛОЧКО.**



СУД ДЫ СПРАВА



# Жанна ПЦІЧКІНА: «Грабавыя» за сына так і не атрымала»

*Маці Ігара Пцічкіна, які памёр у следчым ізалятары №1, не можа атрымаць грошы ад Міністэрства ўнутраных спраў.*

Нагадаем, што ў маі 2013 года суд Заводскага раёна Мінска прыгаварыў 21-гадовага **Ігара Пцічкіна** да трох месяцаў адміністрацыйнага арышту за тое, што ён кіраваў аўтамабілем, будучы пазбаўленым пасведчання вадзіцеля. Напрыканцы ліпеня маладога чалавека накіравалі ў СІЗА №1, а праз некаторы час супрацоўнікі ізалятара паведамілі сваякам, што Пцічкін памёр ад сардэчнага прыступу. Пазней следства інфармавала: маўляў, маладога чалавека шпіталізавалі, таму што ў яго сталі выяўляцца і нарастаць прыкметы вострага псіхічнага расстройства. Пцічкін нібыта сістэматычна ўжываў алкаголь і курыльныя сумесі з наркатычнымі і псіхатропнымі рэчывамі.

Амаль тры гады спатрэбілася маці Ігара, каб з дапамогай праваабаронцаў дамагчыся ўзбуджэння крымінальнай справы за неналежнае выкананне прафесійных абавязкаў фельчарам медчасці СІЗА №1, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць пацыента.

У выніку фельчар быў прыгавораны да трох гадоў пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі ва ўмовах пасялення. Яго прызналі вінаватым у неналежным выкананні прафесійных абавязкаў, што прывяло да смерці Пцічкіна. А маці і сястра загінуўшага хлопца з дапамогай праваабаронцаў падрыхтавалі іск, каб атрымаць кампенсацыю за нанесены маральны і матэрыяльны ўрон.

Суд прызнаў сваякоў Пцічкіна пацярпелымі і пастанавіў спагнаць з Міністэрства ўнутраных спраў 30 тысяч рублёў маральнай і яшчэ 6 тысяч рублёў матэрыяльнай кампенсацыі. МУС падало касацыйную скаргу ў Мінскі гарадскі суд, але той пакінуў рашэнне раённага суда ў сіле.

*"Грошай я да гэтага часу так і не атрымала, хаця па тэрмінах МУС ужо павінен быў іх пералічыць,* – распавяла "Народнай Волі" **Жанна ПЦІЧКІНА**, маці загінуўшага хлопца. – *Зараз міністэрства быццам бы збіраецца і далей абскарджваць рашэнне, хаця мне падаецца, што сітуацыя тут зразумелая. За тры дні ў ізалятары адправілі ў магілу майго сына, і яшчэ хапае сумлення не заплаціць "грабавыя" за чалавека. У мяне проста няма слоў…"*

– Затрымкі з выплатамі дэманструюць, як Міністэрства ўнутраных спраў ставіцца да беларускіх грамадзян, – дадае юрыст **Павел САПЕЛКА**. – МУС, безумоўна, яшчэ можа падаць скаргу ў наглядным парадку, але гэта не ўплывае на выкананне рашэння. Таму відавочна адно: міліцэйскае ведамства хоча максімальна зацягнуць працэс выплаты грошай.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

КАДРЫ

# Маэстра, які не разлічвае на сяброўства

У новым сезоне ў Вялікім тэатры Беларусі будзе працаваць новы дырыжор – Джанлука Марчана. Яго статус цяпер гучыць так: галоўны запрошаны. У верасні он будзе дырыжыраваць операй В.-А.Моцарта «Вяселле Фігаро».

Марчано – дырыжор свету, ён цесна супрацоўнічае з опернымі тэатрамі Англіі, Чэхіі, Італіі. «Я дома там, дзе знаходжуся ў гэты момант, – усміхаецца маэстра. – Я ў Мінску – і я дома, паеду ў Тбілісі ці Лондан – і буду камфортна адчуваць сябе ў гэтых гарадах. Арменія – мая другая радзіма, там жывуць мая жонка і яе сям’я. І гэтая краіна, безумоўна, важная для мяне, нават калі я праводжу там пяць дзён, а тыя 360, што засталіся, – за яе межамі. Бясконцыя падарожжы – жыццё дырыжора. І яно мне падабаецца!»

«Аднойчы двое «хлопцаў» змянілі маё жыццё. Гэта Джакама Пучыні і Джузэпэ Вердзі, – прызнаецца Джанлука. – Безумоўна, я – музыкант, прычым апантаны сваёй прафесіяй, таму люблю і Джардана, і Масканы, і Леанкавала, і Расіні. А неверагодны Чайкоўскі! Мне часам здаецца, што Чайкоўскі – гэта рускі Пучыні, а Пучыні – італьянскі Чайкоўскі. Але! У маёй крыві цячэ музыка Джакама Пучыні і Джузэпэ Вердзі. Гэта абсалютна дакладна!»

«Праца дырыжора складаецца ў тым, каб калектыў цалкам даверыўся табе, без аглядкі пайшоў за табой і больш за тое – пачаў бачыць тваімі вачыма. Дарэчы, на працы не можа быць сяброў, у гэтым я даўно пераканаўся, – упэўнены маэстра. – Як гаворыцца, сяброўства сяброўствам, а служба службай. Для мяне, напрыклад, вельмі важная дысцыпліна ў калектыве. Сам я ніколі не спазняюся, дзякуй маім бацькам – так выхавалі. Лічу за лепшае прыйсці на паўгадзіны раней, чым на хвіліну спазніцца. Так, дырыжор – гэта лідар, трэнер, псіхолаг, але ні ў якім выпадку не дыктатар. Аўтарытэт павінен зарабляцца толькі ведамі і павагай. Сілай – ніколі!»

**Алена КІРЭЕВА.**

ГОЛАС ГРАМАДЫ

# «Міла», прэч з нашага двара!»

Вуліца Міхася Лынькова ў Мінску мае аднабаковую забудову, бо па ўсёй даўжыні падпёрта чыгуначнымі пуцямі. Ад цяжкагрузаў, самі разумееце, экалогія не лепшая.

Дом №7 адным краем адступае ад вуліцы, і "Зелянбуд" засадзіў пятачок маладзенькімі каштанамі. Узімку тут збіралася дзятва з усіх бліжэйшых дамоў – пакатацца на санках з горкі. І якраз гэтую тэрыторыю ў 2013 годзе гарвыканкам выставіў на аўкцыён пад забудову. Набыло ўчастак ТАА "Парфюм Трэйд", чые крамы "Міла" і так засеялі ўвесь горад. Для яшчэ адной не знайшлося ў сталіцы больш прыдатнага месца. З жыхарамі, зразумела, ніхто не раіўся.

Як два пад’езды адстойвалі свой двор разам са стаянкай – гэта асобная гісторыя. У канцы 2015 года жыльцы дома з вялікай цяжкасцю ўсё ж адбіліся ад незаконнага будаўніцтва крамы прама пад носам. Інспекцыя Дзяржбуднагляду прызнала парушэнне закона і адклікала ў расійскай кампаніі ліцэнзію на будаўніцтва.

Ды заўчасна радаваліся. Як толькі ў адміністрацыі Фрунзенскага раёна памяняўся кіраўнік (ці гэта супадзенне?), вясною бягучага года трохкутнік двара зноў абгарадзілі (на гэты раз з відэасістэмай), прыбыла тэхніка, распачаліся земляныя работы. Будоўля ідзе спешна, ударнымі тэмпамі. На сёння ўзведзена металічная канструкцыя. Не стала ні зялёнай зоны, ні месца, дзе прыпаркавацца аўто, ні горкі для дзіцячых забаў. Сама Ядвіга Паплаўская, як акцыянер кампаніі, прыбыла паглядзець, як ідзе будаўніцтва.





"Міла", прэч з нашага двара!" – такі плакат выставілі актывісты з дома №7 і, натуральна, прадоўжылі барацьбу за магчымасць "пераначаваць у сябе пад лаўкай".

"Мы прайшлі ўсё, – распавядае жыхарка дома Алена Леанідаўна Папковіч. – Напісалі дзясяткі лістоў куды толькі можна і ведаем схему, па якой улады адбіваюцца ад скаргаў насельніцтва".

Схема гэтая знаёмая многім, хто імкнуўся дабіцца праўды або пакараць вінаватых: скаргі перакідваюцца ў ніжэйшыя інстанцыі. Санітарная служба горада, напрыклад, адпраўляе іх у Камітэт па архітэктуры і горадабудаўніцтве, Адміністрацыя прэзідэнта – у гарвыканкам. Дзяржкантроль даўно не замарочваецца з высвятленнем, хто там недапрацаваў, і таксама адфутбольвае звароты. Адказ прыходзіць за подпісам першага намесніка мэра, а знізу маленькімі літарамі пазначаны выканаўца: А.М.Цуран, старшыня Фрунзенскай раённай адміністрацыі. Прыміце і распішыцеся! Так замыкаецца кола кругавой парукі. А ногі растуць, як зразумелі жыхары, з архітэктурнага ведамства, ад А.А.Кавальчык, начальніка аддзела горадабудаўнічага планавання. Нездарма на сустрэчы ў кабінеце кіраўніка раённай адміністрацыі яна паводзіла сябе з выклікам і прамым тэкстам заявіла: "Нічога не дакажаце!"

Даказваць даводзіцца той просты факт, што па гэтай пазіцыі не праводзілася грамадскае абмеркаванне. (На той час яно патрабавалася, пазней Савет міністраў закон адмяніў.) І раптам на 19 ліпеня ў школе №81 прызначаецца прэзентацыя і абмеркаванне плана забудовы раёна ў межах вул.Альшэўскага – пр.Пушкіна – вул.М.Лынькова – вул.П.Глебкі. (Дзяржаўны праект дэтальнага планавання тэрыторыі ў скарачэнні называюць трыма літарамі: ПДП.) Вёў прэзентацыю намеснік кіраўніка адміністрацыі раёна А.І.Некрашэвіч, а замест непрысутных аўтараў праекта адказваў на пытанні галоўны архітэктар "Мінскграда" А.Р.Акенцьеў.

У актавай зале сабралася надзіва шмат зацікаўленага народа. Актыўнічалі ўладальнікі прыватных сядзіб, жыхары былога ваеннага гарадка і згаданага дома па Лынькова. ПДП заўсёды праходзяць бурна, хаця пратакол рэгламентам не прадугледжаны і прапановы ніхто не запісвае. Гэта быў не сход, а легітымны мітынг. Пытанні ператвараліся ў маналогі, эмоцыі кіпелі. Прывяду асобныя рэплікі:

– Вы людзей не чуеце і робіце што заўгодна! Мы нікому не цікавыя.

– З раённымі ўладамі няма сэнсу "разговоры разговаривать", яны толькі выканаўцы.

– У наш гарадок таксама хацелі ўсабачыць гандлёвы цэнтр, але мы ад яго адбіліся.

– Эколагі карыстаюцца чужымі лічбамі, не аглядаючы тэрыторый.

– Запішыце сабе, што прэзентацыя правалена, бо ваш "прэзент" з душком!

Што ж да іншых момантаў меркаванай забудовы нашага ціхага мікрараёна, то размах уражвае. Хто сказаў, што ў нас дзяржава бедная? Нам абяцаюць Нью-Васюкі – з касмічнай эстакадай над чыгункай, з трэцім кальцом, з жылой высоткай на месцы толькі што пасаджанага сквера, з гандлёвым цэнтрам у прыватным сектары… "Вам мала "Кароны"?" – крычалі людзі з месцаў.

На фоне такіх глабальных перспектыў крама бытавой хіміі, што падпірае дом, уяўляецца кветачкамі.

– Што вас уразіла на абмеркаванні? – пытаюся ў Алены Гладун.

– Што ўсе дружна былі супраць. План не падтрыманы ні па адной пазіцыі, акрамя басейна. І то – ці будзе ён сацыяльны? Ці змогуць нашы дзеці там аздараўляцца? Абмеркаванне паказала настроі людзей і іх стаўленне да горадабудаўнічай палітыкі ўлад. А што робіцца на будоўлі!.. У раскапаны двор страшна выпускаць дзяцей. Буйнагабарытнай тэхнікай пашкоджаны чатыры асабістыя машыны. Работы вядуцца ў дзве змены, спешна. Вывела неяк сабаку ў гадзіну ночы, а на пляцоўцы, як злодзей, прараб з ліхтарыкам…

Што тычыцца дома №7, то мы, відавочна, маем справу са службовым падлогам: нейкім чынам грамадскае абмеркаванне, якога не было, матэрыялізавалася ў дакументах на дазвол будоўлі. Цікава, якія меры прыме пракуратура?

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

ПРЕСС-ТУР

# Жизнь продолжается…

*Деревня Стреличево находится в восьми километрах от Хойников. До закрытой территории Полесского радиационного заповедника отсюда около пяти километров по прямой. После аварии на Чернобыльской АЭС из населенного пункта массово уезжали люди, и в 1993 году в Стреличево пришлось закрыть школу. Только спустя много лет в ней опять слышны детские голоса. В рамках пресс-тура, организованного недавно Департаментом по ликвидации последствий аварии на ЧАЭС, корреспондент «Народной Воли» заглянул в Стреличевскую школу.*



### На проверку!

*– Сегодня у нас 140 учащихся, работают 23 педагога,* – рассказывает директор школы **Александр Вергейчик.** – *Все классы с первого по одиннадцатый полностью укомплектованы.*

Александр Вергейчик, кстати, первый наставник известного белорусского футболиста, а теперь уже знаменитого тренера Виктора Гончаренко, который родом из Хойников. До отъезда в Россию Виктор оказывал немалую помощь школе. Несмотря на расстояние, связь и дружба поддерживаются до сих пор.

В школе работает Центр практической радиологической культуры. С 2006-го по 2008 год учебное заведение принимало участие в образовательном швейцарском проекте. По его окончании иностранные партнеры оставили белорусам электронные весы, радиометр и другое оборудование. С помощью этих приборов учащиеся, которые занимаются в экологическом кружке «Эдельвейс», проверяют продукты на загрязненность радиоактивными веществами.

– *Раньше продукты питания мы проверяли буквально каждый день,* – рассказывает о работе Центра педагог дополнительного образования Софья Шрамко. – *Сейчас немного реже, нет такой необходимости.*

Вот школьники проверяют молоко, взятое из местной столовой. Процесс занимает не больше 5–10 минут. Продукт, который ребята проверили на содержание радионуклидов, оказался в норме.

– *За последние пару лет мы провели 214 измерений продуктов питания,* – рассказали одиннадцатиклассники Анжела Бланк и Вячеслав Кашперко. – *Превышение было выявлено в 17 пробах. Два раза в год нас проверяют на СИЧ – степень ионизации человека. Наблюдается тенденция снижения уровня содержания радионуклидов в организмах учащихся.*

Превышение норм содержания радионуклидов обнаруживается в основном в лесных ягодах и грибах, а также в мясе диких кабанов, которое местные жители, бывает, приносят на исследование.

Ученики школы измеряют также загрязненность берегов водоемов и отдельных участков леса. Радиационный фон, по словам учащихся, не превышает норму.

### …Хотя паника была сильная

Как объясняют школьники и учителя, сегодня местные жители спокойно относятся к соседству с загрязненными территориями. Хотя первоначально население испытывало страх.

– *Люди боялись и волновались,* – говорят Анжела и Вячеслав. – *Сейчас такого уже нет. Мы объясняем, как экологически грамотно подходить к приготовлению продуктов, как снизить содержание радионуклидов, если вдруг обнаруживается, что они есть.*

Любой житель окрестных деревень может бесплатно обратиться в Центр для проверки продуктов.

– *Был случай, когда на проверку попало молоко с повышенным уровнем загрязнения,* – рассказывает Софья Шрамко. – *Я попросила показать, чем кормят корову: принесли несколько килограммов муки и охапку сена. Высушенная трава «засветилась». Спрашиваю: где заготавливали сено? В заповеднике. Значит, оттуда ничего везти нельзя.*

В 2015 году в Полесском радиационном заповеднике были отмечены серьезные пожары. Некоторые жители Стреличево запрещали детям даже выходить из домов.

– *Тогда стоял сильный туман и смог,* – вспоминает Софья Степановна. – *Мы очень боялись, что повысится уровень радиации. Я взяла прибор, измерила на асфальте и почве. Уровень составил 0,08 микрозивертов при норме 0,15. Почти в два раза меньше… Хотя паника была сильная.*

*Местное население прекрасно знает, что, например, грибы нужно несколько раз проварить, промыть в соленой воде. Люди стали более развиты в научном плане.*

Для деревенских жителей регулярно проводятся собрания, на которые приглашаются специалисты из заповедника. Людям рассказывают об экологической ситуации в районе, о правилах поведения и так далее.

– *Многие дети летом отдыхают в Сочи,* – говорит директор школы. – *Некоторые уезжают на оздоровление в Италию, в другие страны…*

*Трагедия произошла, но жизнь продолжается. Наши выпускники после окончания высших учебных заведений возвращаются домой, и некоторые из них работают в школе. Как правило, мы готовим смену из своих же ребят…*

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**
**Фото автора.**

